# Голас Радзімы

№ 49 (2035)
3 снежня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**I.** ФОТАКАРЭСПАНДЭНТ «Голасу Радзімы» С. КРЫЦКІ пад здымкам зрабіў такі подпіс: «Старэйшая група ўзорнага танцавальнага калектыву Мазырскай дзіцячай філармоніі». Гэта адно з выступленняў вядомага ў горадзе, вобласці, рэспубліцы дзіцячага калектыву мастацкай самадзейнасці. Усяго ж Мазырская філармонія аб'ядноўвае сотні хлопчыкаў і дзяўчынак, якія ўтвараюць хоры, аркестры, ансамблі, тэатры... (Фотарэпартаж пра гэту дзіцячую культурную ўстанову змешчаны на 7-й стар.).

*СУСТРЭЧА ПРАЗ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ*

# НАДЗЕІ САЛДАТ ЭЛЬБЫ

Сярод памятных рэліквій, якія захоўваюцца ў сямейным архіве беларускага настаўніка з вёскі Морач Аляксандра Сільвашкі, яму, як ён гаворыць, асабліва дарагія дзве фатаграфіі. Адна з іх вяртае да апошніх дзён другой сусветнай вайны. Ён, дваццацігадовы гвардыі лейтэнант Савецкай Арміі, стаіць у абдымку з маладым лейтэнантам амерыканскай арміі Уільямам Робертсанам. Здымак зроблены 25 красавіка 1945 года, калі дазор амерыканскага афіцэра разведвальнай службы 1-га батальёна 273-га палка 69-й дывізіі выйшаў да Эльбы і сустрэўся з савецкімі салдатамі. Фатаграфія абышла старонкі многіх газет і часопісаў, стала гістарычным дакументам, своеасаблівым сімвалам баявога брацтва па зброі, добрай волі дзвюх дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі.

Другі здымак зроблены ў 1975 годзе, калі абодва салдаты сустрэліся ў Савецкім камітэце ветэранаў вайны, які запрасіў Уільяма Робертсана на святкаванне 30-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй.




— З Уільямам Робертсанам я мог бы сустрэцца і раней, праз дзесяць год пасля вайны, калі амерыканскія сябры запрасілі нас, некалькіх салдат Эльбы, наведаць іх краіну, — гаворыць Аляксандр Сільвашка. — Але амерыканскі дзярждэпартамент тады не даў нам візы. Гэтае рашэнне пакінула ў сэрцы горкі асадак. Не менш яно засмуціла і маіх вучняў, якім я выкладаю гісторыю і не раз расказваў аб незабыўных красавіцкіх днях 1945 года, калі рускі і амерыканскі салдаты паціснулі адзін аднаму рукі, пра клятву — мацаваць дружбу, народжаную ў агні вайны супраць фашызму, якую мы тады далі. Мае выхаванцы здзіўляліся: няўжо забылася мінулае? Іх не магло гэта не хваляваць, таму што многіх вайна пакінула сіротамі. У Беларусі кожны чацвёрты жыхар стаў ахвярай гітлераўскіх акупантаў ці не вярнуўся з поля бою.

Дзеці — народ дапытлівы. Ім усё хочацца ведаць, да ўсяго дакапацца. Не раз на ўроках узнікала размова аб узаемаадносінах з Амерыкай, якія выклікалі трывогу. Цікавіла іх, ці ёсць весткі аб амерыканскіх салдатах, з якімі звёў лёс на Эльбе. Але пабачыцца з некаторымі з іх, у тым ліку і з Уільямам Робертсанам, я змог толькі праз трыццаць год.

Як было прыемна даведацца, што пасляваенная жыццё ў майго амерыканскага пабрацімa склалася шчасліва. Уільям Робертсан стаў прафесарам-нейрахірургам, выгадаваў траіх дзяцей. Я таксама не магу паскардзіцца на свой лёс. Вучыўся ва універсітэце, потым скончыў педагагічны інстытут. Вось ужо многія гады працую дырэктарам школы ў Клецкім раёне. У мяне дзве дачкі. Яны таксама сталі педагогамі.

Гэта сустрэча прынесла радасць і ў іншых адносінах. Яна пацвердзіла, што салдаты Эльбы верныя клятве, данай тады, у 1945 годзе, напярэдадні Перамогі: зрабіць усё, каб не дапусціць новай вайны, каб амерыканскі і савецкі народы жылі ў дружбе.

У гэтым, як гаворыць Аляксандр Сільвашка, ён пераканаўся яшчэ раз, калі ў 1985 годзе ў Таргау сабраліся многія з удзельнікаў сустрэчы на Эльбе, каб гучна заявіць: толькі ў давер'і адзін да аднаго, толькі ва ўзаемным імкненні да раззбраення і супрацоўніцтва — залог мірнага жыцця на планеце. У гэтым ён пераканаўся, пабываўшы нарэшце летась па запрашэнню саюза ветэранаў Эльбы, які ўзначальвае цяпер Уільям Робертсан, у Амерыцы.

— Адно з самых важных адкрыццяў, якое я зрабіў для сябе, падарожнічаючы па Амерыцы, — тлумачыць Аляксандр Сільвашка, — гэта тое, што людзей працы, простых амерыканцаў, у такой жа меры, як і нас, савецкіх людзей, хвалюе пытанне аб міры. Іх не менш трывожыць той факт, што ў свеце цяпер назапашана столькі ядзернай зброі, што яе з лішкам хопіць, каб знішчыць нашу зямную цывілізацыю. Яны таксама асуджаюць гонку ўзбраенняў, на якой дзялкі, што спецыялізуюцца на ваенным бізнесе, нажываюць вялікія капіталы, вераць у тое, што агульнымі намаганнямі можна прадухіліць навісшую над светам катастрофу. Дзе б мы ні былі, а маршрут наш пралягаў праз дзесяць гарадоў, у тым ліку Вашынгтон, Нью-Йорк, Канзас—усюды нас сустракалі як жаданых гасцей. Муніцыпалітэты Канзаса і Даласа прынялі рашэнне ўнесці маё імя ў спіс ганаровых грамадзян гэтых гарадоў. Я расцэньваю гэты факт, як даніну павагі ўсім салдатам мінулай вайны, якія ў цяжкую гадзіну выпрабаванняў не толькі выкналі сумленна свой абавязак перад чалавецтвам — закрылі шлях фашызму, але і сёння стаяць у першых радах барацьбітоў за мір, за цвярджэнне ідэалаў, за якія яны пралівалі сваю кроў.

Паездка ў Амерыку, па словах Аляксандра Сільвашкі, пакінула глыбокі, незабыўны след у яго памяці, надала новыя сілы і ўмацавала аптымізм. У яго з'явілася там нямала новых добрых сяброў. Адзін з іх Джон Драйлінг, у сям'і якога Сільвашка правёў некалькі гадзін, прыслаў такое пісьмо: «Вы выдатны пасол міру, і я жадаю вам, усёй сям'і, усім вашым вучням заўсёды чыстага неба. Мір вашаму дому».

Аляксандр Сільвашка ў гэтыя дні зноў збіраецца ў Амерыку. Прыйшло запрашэнне ад сяброў, з якімі пабратала вясна 1945 года на Эльбе. Едзе не адзін—з генералам Альшанскім, які служыў у суседнім 175 палку і вайну закончыў яфрэйтарам.

— Гэта наша паездка прыпадае на час, калі ў Вашынгтоне павінна адбыцца сустрэча кіраўнікоў дзвюх краін — Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова і прэзідэнта ЗША Рональда Рэйгана. Людзі ўсёй планеты, каму дарагія ідэалы міру, звязваюць з ёю вялікія надзеі, а мы, хто вынес увесь цяжар мінулай вайны, тым больш.

Вясной 1945 года будучыня здавалася нам бязвоблачнай. Мы лічылі гэтую вайну апошняй у гісторыі чалавецтва. Але тая вера, на жаль, пачала мала-памалу гаснуць. У гандляроў смерцю свае законы. Мы сталі сведкамі нараджэння страшнай ядзернай зброі, здольнай спапяліць усё жывое на зямлі, сведкамі безадказных заяў, спроб стварыць у асобе савецкага народа вобраз ворага, каб апраўдаць вытворчасць ядзернай зброі, пастаўленай, па сутнасці, на заводскі канвеер. І ўсё-такі ў нас, ветэранаў вайны, салдат Эльбы, нават у самыя крытычныя мінуты, не знікала надзея, што цвярозы розум возьме верх. І вось мы знаходзімся напярэдадні доўгачаканай падзеі — падпісання дагавора аб ліквідацыі цэлага класа ракет—сярэдняй і меншай дальнасці, які, несумненна, адкрые шлях да новых дагаворанасцей, дазволіць зменшыць рызыку ўзнікнення ядзернай вайны, прывядзе да разрадкі напружанасці.

Ці варта гаварыць, з якім пачуццём радасці мы едзем з генералам Альшанскім на сустрэчу з амерыканскімі пабрацімамі. Едзем, каб выказаць сваё задавальненне, заявіць ад імя савецкіх ветэранаў другой сусветнай вайны, салдат Эльбы, аб сваёй гатоўнасці мацаваць справу міру, зрабіць усё магчымае, каб нашы дзеці і ўнукі жылі ў міры і згодзе.

**Анатоль СТУК.**

**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр СІЛЬВАШКА.**

**Фота Я. КОКТЫША.**

# АМАРАНТ, ГАЛЕГА І ІНШЫЯ

Экзатычныя назвы гэтых траў, што пасяліліся на полі кармавых культур Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР, у хуткім часе стануць прывычнымі для беларускай вёскі. Так лічаць вучоныя, якія вырашылі акліматызаваць ва ўмовах рэспублікі новыя сельскагаспадарчыя расліны.

Вось, напрыклад, галега ўсходняя—высокая, у чалавечы рост расліна, якая ўтварыла густыя заараснікі. За два ўкосы яна дае на круг да 800 цэнтнераў зялёнай масы. Прычым якой: 100—120 цэнтнераў кармавых адзінак з гектара і да 30 цэнтнераў страўнага пратэіну! Спецыялісты ведаюць, што традыцыйныя культуры па гэтых паказчыках уступаюць. Яшчэ вышэйшыя ўкосы—да 1 000 цэнтнераў—пасевянай на суседнім участку сільфіі пранізаналістай. У Паўночнай Амерыцы яна расце ў поймах рэк і прывычная да паводак. Вучоныя лічаць яе вельмі перспектыўнай для забалочаных глеб Палесся і Віцебскай вобласці. Вывады аб высокай каштоўнасці такога корму, зробленыя пасля лабараторных даследаванняў, пацвердзіліся і на фермах тых гаспадарак, дзе для эксперыменту выкарыстоўвалі сільфію. У параўнанні з традыцыйным рацыёнам выхад малака яна павялічвае на 0,8 літра і на 0,2 працэнта павышае яго тлустасць.

З амерыканскага кантынента трапіў на дзялянкі Батанічнага саду і амарант — сельскагаспадарчая культура ацтэкаў дакалумбавых часоў. Некаторыя яго віды выкарыстоўваюць у салатах, а зерне ідзе ў ежу чалавека, спелыя расліны — на корм жывёле. У амаранце вельмі многа бялку і амінакіслот — значна больш, чым у ячмені, пшаніцы і кукурузе, ён засухаўстойлівы. Вопыт калгаса-камбіната «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна, саўгасаў «Сялюты» Віцебскага, «Азёрны» Мінскага, калгаса «Ленінскі шлях» Слуцкага раёнаў і іншых пераконвае, што не толькі на доследных дзялянках, дзе абераагаецца кожная сцяблінка, але і на вялікіх палях навасельцы даюць высокі ўраджай.

**Д. ПАТЫКА.**

**СТВОРАНА АБ'ЯДНАННЕ СЕЛЬСКІХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ**

# КЛУБ «100»

Калі на ток калгаса імя Леніна Гомельскага раёна з камбайна, на якім працаваў у жніво дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Аляксандр Палякоў, паступіла апошняе збожжа з 34-гектарнага ўчастка — азімая пшаніца сорту «шчодрая», галоўны аграном Сцяпан Белікаў падсумаваў валавы збор з гэтай плошчы. Кожны гектар «шчодрай» даў па 104,6 цэнтнера зерня! Так, названы калгас — гаспадарка высокай культуры земляробства. Сам Белікаў — гарачы прыхільнік усяго перадавога. Дзе што ўбачыць лепшае, укараняе ў сваёй гаспадарцы. На доследным полі калгаса ён выпрабоўвае дзесяткі новых сартоў розных сельскагаспадарчых культур.

— Мне, як спецыялісту,— гаворыць Сцяпан Іванавіч,— вельмі дапамагаюць заняткі ў абласным клубе «100». Там я многаму навучыўся, многае пераняў.

Што ж гэта за клуб такі? Створаны ён па ініцыятыве галоўнага агранома калгаса «Перамога» Жыткавіцкага раёна Ніны Мельнікавай, якая і ўзначаліла яго.

Два гады назад у гэтай гаспадарцы на асобных участках быў атрыманы ўраджай па 100 цэнтнераў трыцікале і каля 90 цэнтнераў азімай пшаніцы з гектара. Тады Ніна Антонаўна паставіла перад сабой мэту давесці ўраджайнасць збожжавых у бліжэйшыя гады да 100 цэнтнераў з гектара на ўсіх палях свайго калгаса. Праўленне «Перамогі» заключыла пагадненне на творчае супрацоўніцтва з пяццю навукова-даследчымі інстытутамі Беларусі. З дапамогай вучоных Н. Мельнікава і занялася павышэннем культуры земляробства, укараненнем інтэнсіўных тэхналогій вырошчвання збожжавых і іншых культур. Яна першая і падала думку аб'яднаць сілы спецыялістаў перадавых гаспадарак раёна, каб сумесна весці пошук шляхоў да высокіх ураджаяў. Так быў створаны раённы клуб «100», куды ўвайшлі галоўныя аграномы шасці гаспадарак. Праз некаторы час да іх далучыліся спецыялісты калгасаў і саўгасаў іншых раёнаў Гомельшчыны. І тады ўжо пры абласным аграпроме быў створаны клуб «100», членамі якога сталі больш за 40 спецыялістаў гаспадарак вобласці.

— Мадэліраванне ўраджаю, прымяненне ўсяго комплексу агратэхнікі, цэласнай сістэмы аховы раслін — аснова ў нашай рабоце, — расказвае член клуба «100» галоўны агроном калгаса імя Жданава Жыткавіцкага раёна П. Бахун. — Не атрымаў жаданага — аналізуй прычыны няўдачы, шукай, дзе дапушчаны пралік.

Па інтэнсіўнай тэхналогіі ў Гомельскай вобласці сёлета вырашчаны збожжавыя на плошчы звыш 120 тысяч гектараў. Амаль 300 гаспадарак атрымалі па 30 цэнтнераў зерня з гектара. У дзесяці калгасах і саўгасах ураджайнасць перавысіла 50 цэнтнераў і ў шасці — 60 цэнтнераў з гектара. У калгасе «Перамога» Жыткавіцкага раёна новы сорт ячменю «азімут» даў звыш 80 цэнтнераў зерня з гектара.

Члены клуба «100» маюць намер кожны год дасягаць такой высокай ураджайнасці.

**Мікола СТАРЧАНКА.**

*ИЗ ЛЕТОПИСИ ВЕЛИКОГО ОКТЯБРЯ*

# ПОБЕДА РЕВОЛЮЦИИ ЗАКРЕПЛЕНА

**КАК ЭТО ПРОИСХОДИЛО В БЕЛОРУССИИ**

**(Окончание. Начало в № 45).**

В резолюции не подчеркивалось, что Всебелорусский Совет, образованный из состава съезда, является временным органом власти. Окончательное же решение вопроса о государственном устройстве Белоруссии передавалось Всебелорусскому учредительному собранию. Резолюция призывала к немедленной организации территориальных белорусских войск, учреждению представительства при центральной власти, выдвигала требование о самостоятельном участии белорусской делегации в мирных переговорах в Бресте.

В резолюции ничего не говорилось о взаимоотношениях с областными и местными органами Советской власти Западной области и фронта. И это было не случайно. Съезд не дал ответа на главный вопрос: кому же должна принадлежать власть в «самоопределившейся» Белоруссии. Разумеется, не определялся и классовый характер этой власти. «Такое решение, — отмечает видный белорусский историк В. Круталевич, — означало непризнание существующей Советской власти в Западной области. И не только непризнание, но и узурпацию власти. Этим решением съезд противопоставил себя Октябрьской революции».

СНК Западной области и фронта, учитывая широкую волну протеста трудящихся масс, принял чрезвычайные меры в отношении «белорусского съезда» и его руководящих органов. 17 декабря он своим постановлением распустил съезд. Однако члены президиума, являвшиеся главными представителями белорусских националистических партий и правых эсеров, не подчинились решению СНК. 18 декабря на подпольном заседании в железнодорожном депо Либаво-Роменской железной дороги лидеры националистов решили развернуть борьбу с большевиками, создали исполнительный комитет Совета съезда, который и стал политическим центром националистической контрреволюции, развернул работу по «белорусизации Советов», а Белорусской войсковой раде предложил начать «активную деятельность по подготовке восстания».

После роспуска съезда, противопоставившего себя революционной власти, буржуазная и мелкобуржуазная пресса открыла кампанию клеветы против большевиков, обвинив их в узурпации власти.

Однако эта клевета была убедительно разоблачена большевиками. Еще 18 декабря председатель СНК Западной области К. Ландер в телеграмме ВЦИК, Совнаркому РСФСР и Наркомнацу объяснил причины роспуска съезда, заключающиеся в том, что съезд пытался создать контрреволюционное правительство, присвоить себе функции государственной власти. 19 декабря член Обликомзапа И. Алибегов об этом информировал И. Сталина — наркома по делам национальностей. Действия СНК Западной области по пресечению контрреволюции были одобрены центральными советскими органами.

3 января 1918 года ВЦИК принял подписанное В. И. Лениным постановление о пресечении контрреволюционных действий, направленных на присвоение функций государственной власти. В нем указывалось на необходимость подавлять такие действия «всеми имеющимися в распоряжении Советской власти средствами, вплоть до применения вооруженной силы».

Но националистические деятели и после этого не отказались от своих намерений, стали апеллировать к ЦК партии эсеров, Учредительному собранию, городским думам, губернским и уездным земствам с требованием поддержать их борьбу «за национальные идеалы». В таком же духе 25 января на III Всероссийском съезде Советов выступил Ф. Гриб, возглавлявший группу «белорусских социалистов». Он заявил, что СНК Западной области и фронта незаконно распустил «белорусский съезд», в связи с чем предлагал передать вопрос о разрешении государственной власти в Белоруссии на рассмотрение Учредительного собрания.

Делегаты съезда отвергли это предложение. Выступивший на съезде К. Ландер раскрыл подлинные цели белорусской националистической контрреволюции. «Мы утверждаем, — заявили делегаты съезда, — что белорусскому народу, русской революции чужды эти люди, что ничего общего с трудовым белорусским народом они не имеют. Еще раз глубоко протестуем и снимаем с революционного белорусского народа навет этих чуждых незнакомцев и торжественно заявляем, что Белоруссия отдает Советской власти все, что есть у нас великого и мощного для сокрушения всего того, что так или иначе стоит на нашем творческом пути к новому миру, к социализму, к интернационализму». Съезд одобрил действия Совнаркома Западной области по пресечению националистической контрреволюции.

После победы Октября внутренняя контрреволюция не имела сколько-нибудь широкой социальной базы, а черпала кадры за счет тех, кто враждебно встретил Советскую власть или был введен в заблуждение псевдосоциалистическими фразами меньшевиков, эсеров, краснобаев из различных националистических партий. «Белорусский съезд» со всей убедительностью показал изолированность этих отщепенцев от трудового народа. Отвергнутые рабочими и крестьянами Белоруссии националисты и их союзники из лагеря правосоциалистических партий, не располагая собственной военной силой, стали откровенно поддерживать контрреволюционные выступления генерала Довбор-Мусницкого, хотя и знали, что польские легионеры никогда не будут защищать национальные интересы белорусского народа, что на первом плане у них — земля и привилегии польских помещиков. Оказавшись в изоляции, националистические деятели предложили генералу Довбор-Мусницкому скоординировать совместные действия для борьбы с Советской властью. Эта откровенная поддержка классовых врагов трудящихся была далеко не последним предательством буржуазными националистами подлинных интересов белорусского народа. Объединив свои силы с корпусом польских легионеров, националистическая контрреволюция надеялась вооруженным путем подавить Советскую власть.

Контакт с командованием корпуса установила и Центральная белорусская войсковая рада. Вступив в антисоветский сговор с польскими легионерами, она попыталась по образцу корпуса создать свою «армию». Для этой цели был сформирован даже штаб, по поручению которого на фронты направились его эмиссары с целью создания «белорусского войска». Но были организованы лишь отдельные малочисленные подразделения. Солдатская же масса, в основном состоявшая из крестьян, на эту авантюру не пошла.

Учитывая сложившуюся обстановку, Н. Крыленко отдал приказ о прекращении попыток формирования национальных частей. 2 декабря исполком Западной области и фронта постановил расформировать польские легионы и принял меры к пресечению деятельности Белорусской войсковой рады по организации белорусских частей. Мотивировалось это тем, что инициаторами формирования подобных полков выступали, как правило, не трудящиеся, а разные националистические организации, преследующие единственную цель — создать вооруженные силы для борьбы с Советской властью. И это было неоспоримым фактом.

Северо-Западный областной комитет РСДРП(б) принял соответствующие меры по пресечению контрреволюционных действий рады. 5 декабря СНК Северо-Западной области и фронта, заслушав доклад К. Ландера о враждебной деятельности националистов, постановил белорусскую войсковую раду распустить, а ее главарей передать военно-революционному трибуналу.

Однако и это не остановило националистов. Они продолжали активно помогать Довбор-Мусницкому готовить антисоветский мятеж. Мятеж польских легионеров не случайно совпал по времени с подготовкой «белорусского съезда». Выступление корпуса Довбор-Мусницкого явилось одним из звеньев в общей цепи контрреволюционных мятежей Каледина, Дутова и Центральной украинской рады в конце 1917 — начале 1918 годов.

В обстановке нарастающей опасности со стороны контрреволюции А. Мясников, замещавший в этот период Верховного главнокомандующего, 14 декабря издал приказ, в котором польскому корпусу предлагалось в полном составе подчиниться командованию Западного фронта и безотлагательно провести демократизацию своих частей. Довбор-Мусницкий не подчинился и этому приказу.

Командование Западным фронтом отдало приказ подавить мятеж. Генерал Довбор-Мусницкий приказом главковерха Н. Крыленко был объявлен врагом революции. В Минске и других городах Белоруссии формировались революционные отряды. На борьбу с польскими легионерами отправился Минский революционный отряд 1-й Минской революционной армии численностью 2 500 человек. На осиповичском направлении, куда он прибыл, было сосредоточено 4 тысячи революционных бойцов. Этой группе войск и была поставлена задача не допустить прорыва польских легионеров к Минску. В Бобруйском уезде военные действия революционных отрядов координировал Глусский штаб Красной гвардии, возглавляемый С. Вилюгой. Красногвардейцы вместе с 51-м стрелковым полком сдерживали легионеров на слуцком направлении. Гомельский красногвардейский отряд численностью тысяча бойцов не допускал прорыва легионеров к Жлобину. Могилевский отряд, в составе которого находилось 4 300 бойцов, был сосредоточен в районе Рогачева. Отряд 10-й армии сдерживал наступление легионеров из Молодечно на Минск.

Действия по ликвидации мятежа возглавил революционный полевой штаб при Ставке Верховного главнокомандующего, который назначил И. Вацетиса и И. Павлуновского командующими группами революционных войск. В ночь на 31 января их войсками была разбита 1-я польская дивизия и занят Рогачев. Польские солдаты массами сдавались в плен. Часть их разбрелась, бросив оружие. Бесславно закончился поход генерала Довбор-Мусницкого против молодого Советского государства.

Оказались разгромленными и другие очаги контрреволюции на территории Белоруссии. В конце ноября 1917 года в Гомеле была раскрыта контрреволюционная организация «Порядок», которая пыталась создать военные формирования из офицеров царской армии для борьбы с Советской властью. Ее тайные резиденты действовали в Минске, Смоленске, Полоцке, Витебске, Орше, Могилеве и других городах. Они сколачивали ударные силы, которые должны были начать боевые действия одновременно с выступлением польских легионеров. Им предстояло захватить железнодорожные станции и сорвать переброску советских войск в районы военных действий. Арест активных участников этой контрреволюционной организации в Гомеле дал возможность органам Советской власти вовремя обезвредить контрреволюцию и в других городах.

Пытались организовать фронт сопротивления Советской власти контрреволюционные элементы и в Могилеве. После ликвидации контрреволюционной Ставки антисоветские элементы стали там группироваться вокруг «Союза земельных собственников», который проводил разнузданную агитацию против Советской власти и сопротивлялся проведению мероприятий местных советских органов. Эту контрреволюционную организацию возглавлял князь Святополк-Мирский. В ее руководящее ядро входили бывший могилевский губернатор барон Карл Колькен, польский магнат Сигизмунд Левицкий и другие. Они были связаны с генералом Довбор-Мусницким и готовились оказать ему активную помощь в борьбе с Советской властью. Заговорщики тщательно разработали план захвата революционной Ставки в Могилеве, а после ареста членов губкома партии большевиков и губисполкома рассчитывали поднять восстание в городе и губернии. Но и здесь организаторам заговора не удалось осуществить свои планы. Они не располагали значительными силами. Их поддерживали только помещики и небольшая группа монархически настроенных офицеров. 23 ноября Могилевский губернский Совет крестьянских депутатов принял решение арестовать помещиков, выступавших против Советской власти. После этого вскоре был ликвидирован и «Союз земельных собственников».

В Витебске консолидация контрреволюционных сил проходила главным образом под лозунгом защиты Учредительного собрания. Буржуазно-помещичья контрреволюция использовала в своих классовых интересах эсеро-меньшевистский блок, различные националистические партии и организации, которые являлись наиболее удобной ширмой, прикрывавшей устремления кадетов. С целью объединения антисоветских сил в губернии меньшевики и эсеры предприняли попытку создать так называемый «Совет депутатов». Они готовили открытое антисоветское выступление в Витебске к моменту открытия Учредительного собрания. Свои действия они увязывали с развертыванием наступления польских легионеров. В этой обстановке в городе активизировали свою деятельность и отдельные законспирированные офицерские группы.

По распоряжению Витебского губкома РСДРП(б) советские органы приняли необходимые меры обороны. Во все уездные Советы была направлена телеграмма, призывающая дать решительный отпор провокациям контрреволюции. Одновременно губисполком принял решение распустить «Совет депутатов», который в спешном порядке готовился созвать съезд представителей городских дум и земств.

Контрреволюция вынуждена была изменить свою тактику. Но от своих замыслов не отказалась: 4—5 января 1918 года, накануне и в день открытия Учредительного собрания, она организовала в городе «мирные демонстрации» и выступления под лозунгом «Власть Учредительному собранию». Меньшевики и эсеры рассчитывали этим подтолкнуть рабочих и солдат на антисоветское выступление. Усилия их оказались безрезультатными: ни одно предприятие, ни одна воинская часть не приняли участия в этих «демонстрациях». Тогда контрреволюция перешла к открытому вооруженному сопротивлению — устроила в Витебске погром.

В результате активных действий красногвардейских отрядов и рабочих дружин контрреволюционное выступление было подавлено.

Контрреволюционные элементы, буржуазные и мелкобуржуазные партии пытались организовать выступления против Советской власти под лозунгом защиты Учредительного собрания не только в Витебске, но и в других городах Белоруссии. Еще 28 ноября, например, Минская городская дума в честь Учредительного собрания устроила торжественное сборище с участием правосоциалистических и националистических партий. Его участники разглагольствовали о необходимости организации широкого фронта в поддержку Учредительного собрания. 3 декабря городская дума попыталась даже организовать в Минске манифестацию под лозунгом «Вся власть Учредительному собранию». Аналогичные демонстрации антисоветские силы пытались организовать в Могилеве, Гомеле, Бобруйске, Орше. Однако все потуги меньшевиков, эсеров, националистов и других противников Советской власти не могли спасти Учредительное собрание. На опыте борьбы с контрреволюцией трудовые народные массы окончательно изжили парламентские иллюзии. В этой связи 9 января 1918 года газета «Звезда» писала: «Нежданно скоро Учредительное собрание показало, что оно не способно, не желает и не может идти по тому пути, по которому идет Советская власть, по тому пути, встать на который требуют народные массы, что оно может быть только помехой в проведении в жизнь требований пролетариата. Еще в зародыше, не открывшись, оно пережило свой век, и нашей задачей в настоящий момент являлось только убрать труп его, чтобы он не превратился в очаг контрреволюционной заразы. Это пролетариат сделал. Теперь перед нами становятся новые задачи организации и укрепления Советской России». Тем самым газета «Звезда» выразила волю трудящихся Белоруссии, их неуклонное стремление к упрочению завоеваний социалистической революции.

В ходе борьбы за укрепление Советской власти в Белоруссии контрреволюционные силы терпели одно поражение за другим. Отсутствие опоры в массах— вот главная причина, которая не дала ей возможности осуществить свои планы. Говоря о причинах столь быстрой победы пролетарской революции, В. И. Ленин писал: «По всей России вздымалась волна гражданской войны, и везде мы побеждали с необыкновенной легкостью именно потому, что плод созрел, потому что массы уже проделали весь опыт соглашательства с буржуазией. Наш лозунг «Вся власть Советам», практически проверенный массами долгим историческим опытом, стал их плотью и кровью».

**Николай СТАШКЕВИЧ.**

